# КРЫНІЦА

№1(25) СТУДЗЕНЬ 2012 www.bchd.info





# «Народная партыя з Хрысціянскім сэрцам»: у Менску адбыўся З'езд БХД

**17 снежня ў ПК МТЗ адбываўся IV З'езд Партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя. У зале прысутнічала 105 дэлегатаў і больш за 300 гасцей З'езду з Менску і ўсіх рэгіёнаў Беларусі, а таксама замежныя госці з Аўстрыі, Венгрыі, Украіны, Расеі.**

Удзельнікі заслухалі выступы ганаровых гасцей З'езду, сустаршыняў і адказнага сакратара БХД, у тым ліку відэазварот палітзняволенага сустрашыні БХД Паўла Севярынца, рэгіянальных кіраўнікоў. Адбылося чарговае галасаванне па заснаванні Партыі.

Падчас перапынку адбыліся пасяджэнні Маладых Хрысціянскіх Дэмакратаў, арганізацыі пенсіянераў ды аргкамітэта аб'яднання чарнобыльцаў і ліквідатараў у межах БХД.

Пасля перапынку былі абмеркаваны і прыняты стратэгічныя дакументы БХД. Самая доўгая дыскусія адбывалася вакол эканамічных антыкрызісных прапановаў БХД і пытання ўдзелу ці няўдзелу хрысціянскіх дэмакратаў у парламенцкіх выбарах 2012 года.

Пасля працоўнай часткі З'езду меў адбыцца канцэрт салідарнасці з палітвязнямі вядомага беларускага музыкі Лявона Вольскага. Аднак кіраўніцтва палаца культуры за 5 хвілін да яго пачатку забараніла правядзенне канцэрту і адключыла святло ў зале. Але нягледзячы на гэта, канцэрт адбыўся ў паўзмроку і ў акустычным фармаце.

Асноўным лозунгам Партыі БХД на 2012-2013 гг. прынята «Народная партыя з Хрысціянскім сэрцам».

# БХД віншуе беларусаў з Божым Нараджэннем!



**Дарагія браты і сёстры! У перыядзе Хрыстовага Нараджэння мы віншуем усіх вас з гэтым вялікім святам.**

**Дзякуем усім за чуласць, салідарнасць, падтрымку. Жадаем усім нам умацавання ў веры, надзеі і любові! Жадаем, каб нягледзячы на ўсе выпрабаванні, радасць Хрыстовай перамогі ніколі не пакідала нашыя сэрцы і мы ніколі не збочвалі з Яго шляху!**

**З Раством Хрыстовым, дарагія браты і сёстры! З Раством Хрыстовым, вольная Беларусь!**

# Павал Севярынец

## Тэкст звароту на IV З'ездзе Партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя

### НАРОДНАЯ ПАРТЫЯ З ХРЫСЬЦІЯНСКІМ СЭРЦАМ

Дарагія браты і сёстры!

Рады вітаць вас на З'ездзе БХД! Найперш, дзякуй вам вялікі за падтрымку: малітвы, наведваньні, тэлефанаваньні, лісты.

Дзякую Богу за вас!

Мінулы год быў для БХД напружаным і цяжкім. З аднаго боку, мы ўпершыню спрацавалі ў маштабах усёй Беларусі, дамагліся нацыянальнай вядомасьці БХД, паставілі перад беларускім грамадствам пытаньне хрысьціянскага выбару ў палітыцы, аб'ядналі сотні тысячаў вернікаў усіх канфесій у сімпатыях да хрысьціянскай дэмакратыі. Зь іншага боку – разгром Плошчы, рэпрэсіі, застрашваньне грамадства, і, нарэшце, Расея, якая пагрозна навісла над Беларусьсю пасьля эўрапейскага байкоту.

Таму зараз перад намі стаіць задача арганізацыйнага і ідэйнага ўмацавання БХД – для як мага больш пасьвечанага служэньня беларускаму народу. Мы мусім быць гатовыя і вытрываць працяглы ціск, і паслужыць жывымі масткамі ў наладжваньні масавых сувязяў веры і салідарнасьці ў грамадстве, ахопленым страхам і расчараваньнем, і рыхтавацца браць на сябе адказнасьць за краіну, калі перамены будуць абвальнымі.

### I. ХРЫСЬЦІЯНСКАЕ ПАГЛЫБЛЕНЬНЕ І НАРОДНАЯ ПАРТЫЯ

Вырашэнне двух стратэгічных задачаў БХД – пашырэнне да маштабаў сапраўды народнай масавай партыі і паглыбленьне хрысьціянскага духу БХД – справа няпростая: сёй-той памылкова схільны іх супрацьпастаўляць. Але пасьпяховыя прыклады Нямецкага ХСС (Баварыя), кіруючай венгерскай партыі FIDES, што правяла нядаўна «Хрысьціянскую канстытуцыю», гішпанскай Народнай партыі паказвае, што аптымальная мадэль – глыбокае сумяшчэньне абодвух гэтых накірункаў. Як Божае і чалавечае (ва ўсім, акрамя грэху) поўнасьцю сумясьцілася ў Госпадзе нашым Ісусе Хрысьце – так і мы, і як асобы, і як сіла, павінныя імкнуцца да выяўленьня Хрыстовага вобразу мысьленьня і дзеяньня, у актыўным пашырэньні БХД ў гушчыні беларускага народу.

Лічу, што стварэньне «хрысьціянскай фракцыі» унутры БХД магчыма толькі ў выпадку плённай дзейнасьці арганізатараў у справах партыі, у выкананьні агульнапартыйных рашэньняў (крытыка «збоку» бяз прыкладу «рабі, як я», пашкодзіць самой ідэі хрысьціянскага паглыбленьня).

Канчатковае рашэньне – за Зьездам.

Лічу, што кіраўніцтва партыі павінна прызнаць пэўныя свае памылкі і недапрацоўкі (як у кампаніях, так і ў разьвіцьці партыі: сцэнар Плошчы, прагал у праваабароне, слабы мэнэджмент, асобныя выпадкі паводзінаў сябраў БХД і інш.) – і сам як сустаршыня гатовы несьці за іх адказнасьць перад дэлегатамі. Лідары БХД мусяць успрыняць канструктыўную крытыку, пачуць альтэрнатыўную думку, прапанаваць на Зьезьдзе (увага!) шлях рэальнага ўмацаваньня хрысьціянскага характару БХД (кампанія ў абарону сям'і, рэкамендацыі для кіраўнікоў усіх узроўняў, апека ва ўцаркаўленні, навучаньне і г.д.) без унутраных раздзяленьняў.

У назве Б Х Д, у цэнтры, у сэрцы – імя Хрыста, і гэта надае нам з вамі невымерную адказнасьці.

«Народная партыя з Хрысьціянскім сэрцам» – прапаную гэта дэвізам зьезду.

### II. МАЛІТВА ЗА БЕЛАРУСЬ

За апошнія месяцы набраў размах беларускі малітоўны рух. Зь ініцыятывы сябраў БХД сталымі цэнтрамі беларускай духоўнай крышталізацыі зрабіліся, апроч менскага Чырвонага касьцёла, Ві-

цебск, Гародня, Гомель, Берасьце; малітва за Беларусь ахапіла Варшаву, Прагу і Вільню. Думаю, гэта пачатак вялікага чыну гістарычнага значэньня. Такі малітоўны пульс прыцягвае вернікаў, яшчэ не гатовых удзельнічаць у «палітыцы», але ўжо сасьпелых для грамадзкай актыўнасьці. Увогуле, малітва за любую справу, якую пачынае БХД – тое, без чаго ня будзе ані плёну, ані перамогі.



Лічу, што БХД трэба спрыяць усебаковаму пашырэньню й ініцыяваньню такіх малітваў.

## III. ВЫЗВАЛІЦЬ ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ!

Найважнейшай справай сёньняшняга дня застаецца вызваленьне палітвязьняў. Думаю, БХД мусіць аддаць усе сілы дзеля арганізацыі моцнай кампаніі салідарнасьці, найперш з сябрамі партыі Яўгенам Васьковічам, Зьмітром Дашкевічам, Эдвардам Лобавым. Адзін за ўсіх – і ўсе за аднаго! Толькі калі кожны хрысьціянскі дэмакрат будзе падтрымліваць таго, хто пад ударам, БХД зможа стаць рухавіком агульнабеларускай салідарнасьці. Галоўнае – дапамога з адвакатам, збор сродкаў для сем»яў, малітва, лісты і акцыі, арганізацыя візіту сьвятароў да вязьняў, збор подпісаў-паручальніцтваў, праваабарончыя форумы.

## IV. ЗЬЕЗД БХД

IV зьезд – падсумаваньне важнага этапу сталеньня Партыі. Мы пашыраемся, і гэта патрабуе ад нас пераадоленьня пэўных хваробаў росту. Падача дакумантаў на рэгістрацыю павінна прайсьці 19.XII – тады мы даем нашым эўрапейскім сябрам эфектыўны рычаг ціску на рэжым, і адначасова на 4-5 месяцаў абараняем сяброў партыі ад перасьледу «за дзейнасьць незарэгістраванай арганізацыі». Найважнейшая задача зьезду, на мой погляд, – зацьвердзіць курс на ўмацаваньне БХД: «Народная партыя з Хрысьціянскім сэрцам». Для нас прынцыпова максімальна адказна правесьці сходы і аформіць паперы. Маральнасьць – наш адказ на беззаконьне рэжыму – мусіць стаць не толькі абаротам агітацыі, а нашай сутнасьцю.

Зьезд БХД павінны стаць падзеяй нацыянальнага маштабу зь ясным пасланьнем беларускаму народу: выйсьце з правалу, у якім апынулася краіна – на шляху вольнай, дэмакратычнай Беларусі, грунтаванай на хрысьціянскіх каштоўнасьцях. Найважнейшыя дакументы зьезду – стратэгія і антыкрызісная эканамічная праграма.

## V. НОВЫХ ЛІДЭРАЎ – У НАЦЫЯНАЛЬНУЮ РАДУ

Хваля новых актыўных лідэраў, якія з'явіліся падчас і пасьля апошняй кампаніі – вялікае Божае дабраславеньне для нас і Беларусі. Вельмі раю, акрамя сталых і дасьведчаных «каранёвых» лідэраў БХД, увесьці ў склад Нацыянальнай Рады партыі Марыну Хоміч, Алеся Кутасава, Максіма Гацака, Ігара Лабкова, Юлію Фралову, Ганну Шапуцьку зь Менску, Алега Аксёнава з Магілёва, Алеся Чаркашына зь Берасьця, Дзяніса Дашкевіча з Рагачова, Алеся Кавальчука з Мазыра, Паўла Самалазава з Баранавічаў, Ірыну Вальтар зь Мёраў, Віктара Чарняка з Гародні, Паўла Кулака з Ашмянаў, Уладзіміра Казлоўскага з Паставаў, Зьмітра Карашкова з Гомеля, і, магчыма, іншых новых, перспектыўных людзей, вызначаных у Менску і рэгіёнах.

## VI. ПЫТАНЬНЕ КІРАЎНІЦТВА

Сёньняшняя схема кіраўніцтва ў БХД, вядома, ня ёсьць ідэальнай – але практыка 2010-2011 гг. паказала, што ў сустаршынства ёсьць пэўныя плюсы, асабліва ў сёньняшняй сітуацыі (калі арыштуюць кагосьці зь лідэраў – партыя працягвае дзейнічаць). Рана ці позна (у менш жорсткіх палітычных умовах) мы прыдзем да класічнага выгляду партыі с адным старшынём і намеснікамі (гэта павышае адказнасьць і надае дынамізм структуры). Але зараз, пасьля размоваў са шмат якімі сябрамі Нацыянальнай Рады і развагаў схіляюся да таго, каб на бліжэйшы час (1-2 гады) захаваць

у БХД некалькі сустаршыняў. Калі зьезд вырашыць усё-такі абраць аднаго старшыню і ёсьць прапанавана маё прозьвішча – бяру самаадвод ( у маім сёньняшнім становішчы браць на сябе адказнасьць за дзейснае кіраваньне партыяй, зразумела, не магу). Лічу, што Віталь Рымашэўскі, Дзяніс Садоўскі, Георгій Зьмітрук, Таццяна Севярынец, Таісія Кабанчук, Юрый Клімовіч, Мікалай Баўсюк, Зьміцер Шурхай і Марына Хоміч у цэлым спраўляюцца з кіраўніцтвам БХД.

## VII. АНТЫКРЫЗІСНАЯ ЭКАНАМІЧНАЯ ПЛАТФОРМА

Сёньня, ва ўмовах абвальнага эканамічнага крызісу і падзеньня ўзроўню жыцця большасьці беларусаў, найважнейшая задача палітычнай партыі – сфармуляваць і прапанаваць рэцэпт ратаваньня і мадэрнізацыі нацыянальнай гаспадаркі. БХД павінная ўжо на Зьездзе апублікаваць свой антыкрызісны плян дзеяньняў у эканоміцы, абмеркаваны зь вядучымі спэцыялістамі. Кароткі. Ясны. Ёмісты. Аснова – 10 пунктаў прапанаваных у стратэгіі.

## VIII. ЯДНАНЬНЕ НАРОДНЫХ СІЛАЎ

Як народная партыя, БХД пакліканая яднаць усе сілы, якія зыходзяць з каштоўнасьцяў персаналізму, народнасьці й субсідыярнасьці – МФ, БНФ, АГП, РЗС, «Разам» – на ўсіх узроўнях. У перспектыве БХД бачыцца нам як сэрца вялікай беларускай народнай сілы, хрысьціянска-дэмакратычнай і кансэрватыўнай паводле характару. А зараз, ва ўмовах усебаковага крызісу і закасьцяненьня рэжыму, мы пакліканыя найперш наладжваць гарызантальныя сувязі ў пакуль млявай, сырой тоўшчы беларускага грамадства.

Народнае абурэньне само па сабе ні ўва што не выліваецца, проста пацiху гніе ўнутры. Сістэма вышчамляе здольных да дзеяньня паасобку – вылічвае, атачае і разам націскае на ўсе рычагі, каб чалавек адчаяўся.

Блогеры ў сеціве, інтэлігенты на кухнях, прадпрымальнікі на кірмашах – кожны спраўна кіпіць у сваім ціхім віры. Мы такія засяроджаныя і такія незадаволеныя, што не заўважаем нават уласнай большасьці.

Перапрус у кватэры сеткавага рэвалюцыянера ў Менску – усе вернікі, прадпрымальнікі, рабочыя і, вядома, праваабаронцы збіраюцца там. Незалежным журналістам у Маладзечне далі суткі – сто чалавек нясуць перадачы, шлюць тэлеграмы, дапамагаюць сям'і. Падтрымка ператвараецца ў акцыю ў любым месцы і ў любы час, у кожным выпадку – каб пераслед за «масавае бяздзеяньне» страціў сэнс. Салідарнасьць як адказ на рэпрэсіі хутка нараджае салідарнасьць як ініцыятыву, рух, які немагчыма пракантраляваць, рух, залежны ўжо не ад дробнапалітычнай сумятні, а (ні больш, ні менш) ад волі народа.

Адзін за ўсіх – паводле такога правіла 2000 гадоў таму перамог Ісус. Нам засталося толькі падхапіць: і ўсе за аднаго!

## IX. «ВЫБАРЫ»

Пакуль у турмах знаходзяцца палітвязьні, удзел у афіцыйнай кампаніі фальсіфікацыі пад назвай «парламенцкія выбары» (насамрэч, не парламенту, не выбараў) – немагчымы. І нават ва ўмовах вызваленьня ўсіх «палітычных» размова павінная ў першую чаргу ісьці пра недапушчэньне падтасовак, замену выбарчага заканадаўства (кампанія Вуса) і асабовага складу т.зв. «выбарчых камісіяў» – ад участковых да ЦВК. Больш таго, калі сітуацыя ня зьменіцца, найбольш моцныя ўдзельнікі «парламенцкіх» выбараў рызыкуюць самі стаць палітвязьнямі, новымі закладнікамі. Пакуль БХД трэба рыхтаваць поўнамаштабовы, актыўны байкот фарсу.

## X. БХД – У КОЖНЫМ РАЁНЕ!

Пасьля шырокіх кампаніяў 2010 г. БХД падтрымалі сотні людзей нават у тых раёнах, дзе мы ня мелі суполак. Гэта ўнікальны рэсурс – і цяпер перад намі цалкам выканальная задача да наступнага Зьезду(!) стварыць структуры БХД у кожным раёне Беларусі. Пакуль у нас ахоплена, па маіх падліках, 87 раёнаў са 118 (каля 70%), найбольш пасьпяхова на Гарадзеншчыне і Віцебшчыне. Гэта справа найперш рэгіянальных каардынатараў і мясцовых лідараў БХД.

## АБНАЎЛЕНЬНЕ ПАРТЫЙНАЙ ПРАГРАМЫ

Праграма БХД пасля 5 гадоў сталеньня Партыі і перад новымі выклікамі для хрысьціянскай дэмакратыі на Беларусі мае патрэбу ў абнаўленьні. На працягу 1 года нам патрэбна падрыхтаваць, а на наступным зьезьдзе прыняць абноўленную праграму Партыі.

## 100 ГОД БХД

Праз 5 гадоў, у 2017, спаўняецца 100 гадоў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Сустрэць гэтыя ўгодкі нам трэба годна: з кнігай пра «Стагоддзе БХД», шырокім ушанаваньнем памяці бацькоў-заснавальнікаў Партыі (Адама Станкевіча, Вінцэнта Гадлеўскага, Яна Пазняка, Станіслава Глякоўскага, Канстанціна Стаповіча, Язэпа Германовіча, Фабіяна Абрантовіча, і іншых), навуковымі канферэнцыямі і конкурсамі. Падрыхтоўку трэба пачынаць ужо зараз. Але, безумоўна, найлепшым адзначэннем юбілею для БХД будзе – прыйсьці да ўлады ў Беларусі і пачаць ператварэнне дзяржавы на аснове праграмы БХД.

Напрыканцы, дарагія сябры, хачу падтрымаць вашу веру і надзею. Ведаю, цяжка. Але як наш Збаўца нарадзіўся ў найцямнейшы і найхаладнейшы час, менавіта ў сёньняшняй глухмені і змроку Госпад шукае і знаходзіць кропкі апірышча ў адкрытых для Яго сэрцах.

Таму – верым, можам, пераможам!

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ –
ЖЫВЕ З БОГАМ!

*П.Севярынец,*
*в.Куплін.*
*Лістапад-сьнежань 2011 г.*

# Віталь Рымашэўскі

## Тэкст выступу на IV З’ездзе Партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя



(RFE/RL)

Шаноўныя дэлегаты! Шаноўныя сябры!

Найперш хачу падзякаваць вам за мужнасць, за ахвярную працу, якая была зроблена ад апошняга З’езда БХД у верасні 2010 года. БХД сваім удзелам у выбарчай кампаніі сцвердзіла, што гэтая партыя адна з самых моцных у краіне. Згодна з незалежнымі сацапытанням (праведзенымі у снежні 2010, пад час рэпрэсій, калі не кожны меў смеласць адкрыта падцвердзіць за каго ён галасаваў) за мяне, як кандыдата ад БХД, прагаласавала больш за 4% грамадзянаў, трэцяе месца ад апазіцыйных кандыдатаў. Гэтыя галасы аддадзеныя таксама і вам, людзі аддалі іх у падтрымку нашай партыі. Але, найперш, беларусы падтрымалі ідэю беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Іх сэрцам было блізка тое, пра што мы казалі пад час перадвыбарчай кампаніі, пад час тэлевізійных выступаў. Нам трэба добра зразумець, адгэтуль ў вачах большасці грамадзянаў нашай краіны мы прадстаўляем і хрысціянскую дэмакратыю. Нашая партыя нясе ў сабе імя Хрыста, многія падтрымліваюць нас, найперш за гэта. І мы мусім імкнуцца быць годнымі гэтай назвы. Таму мы не маем ніякага права прыкрывацца Яго імём, прыпісваць сабе поспехі і заслугі, але павінны быць вартымі прадстаўнікамі хрысціянскай дэмакратыі і слугамі беларускага народу.

Раней журналісты, незалежная прэса, дыпламаты казалі, што яшчэ не час і не месца для БХД, але пасля гэтых выбараў усё зразумелі, што хрысціянская дэмакратыя – гэта тая ідэя, якая патрэбна беларусам. Гэта была кампанія, праведзеная толькі на беларускія грошы, без замежнай фінансавай падтрымкі.

Я таксама бяру адказнасць за тыя няўдачы, якія напаткалі нас 19 снежня, за тыя памылкі, якія былі дапушчаныя, у часе выбарчай кампаніі. Таму што гэта я, як адзін са сустаршыняў БХД павінен быў прадугледзець масавыя рэпрэсіі, якія рэжым мог дапусціць у дачыненні да сяброў партыі. Беларускія ўлады хацелі знішчыць БХД, і нетолькі яе. Яны хацелі знішчыць усе апазіцыйныя сілы ў Беларусі.

Мы вельмі позна пачалі кампанію, нашмат пазней за ўсіх іншых кандыдатаў. Толькі ў верасні адбыўся старт кампаніі. І ад гэтага нам было яшчэ цяжэй несці на сваіх плячах цяжар перадвыбарчай кампаніі. Недастатковая ініцыятыва была ўзята ў арганізацыі Плошчы. Мы надта доўга спадзяваліся на тое, што атрымаецца дамовіцца, што будзе адзіны сцэнар. Я заклікаў прыйсці людзей на Плошчу, і адчуваю за гэта сваю персанальную адказнасць. Калі не было адзінага сцэнара, трэба было прадставіць свой. Трэба было больш рашуча браць інцыятыву на сябе і падчас падрыхтоўкі, і падчас правядзення Плошчы, тады маё сумленне было б больш спакойным.

Я дзякую вам за тую падтрымку, якую вы аказвалі маёй сям’і, калі я быў у вязніцы і затым, калі быў на свабодзе. Самае галоўнае, што можа быць у палітычнай дзейнасці і тое, што можа быць у жыцці, гэта калі побач ты адчуваеш людзей, з якімі можна пайсці ў выведку, і якім можна давяраць болей, чым нават сабе. Я дзякую Госпаду, што ў Беларусі такія людзі ёсць, я дзякую ўсім вам, што вы такія людзі.

Я таксама ўсведамляю сваю адказнасць за кампрамісны крок, за

ліст да так званага прэзідэнта гэтай краіны, які дазволіў мне выйсці з вязніцы. Мне прапаноўвалі там шмат: выступіць на БТ, падпісаць адпаведныя дамовы і інш. Але я разумеў, што звяртаючыся да чалавека, які хоча пачуць да сябе ад мяне такое слова як «прэзідэнт», я вымушаны быў пайсці на кампраміс. Ва ўмовах татальных рэпрэсій я паступіць інакш не мог. Я думаю, гэта той мінімум, на які можна было пайсці. Але я паўтараю, што гэта быў кампраміс, і пры кожным кампрамісе патрэбна пакаянне.

Таксама хачу падкрэсліць, што ніхто ў Беларусі не павінен мець ілюзій: пакуль у Беларусі няма свабодных выбараў - слова «прэзідэнт» можа быць толькі мянушкай. Ведаеце, у вязніцы шмат розных мянушак: калі сёння адзін чалавек хоча, каб яго называлі такой мянушкай, яго будуць называць такім чынам.

Я лічу, што Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя зрабіла вельмі шмат пасля 19 снежня. Беларуская ўлада хоча бачыць апазіцыю такой, якой яна была пасля 19 снежня – раз’яднанай. Менавіта БХД, а персанальна Дзяніс Садоўскі і Вадзім Кабанчук ініцыявалі стварэнне шырокай кааліцыі палітычных сіл. Цяпер гэта аформілася ў пагадненне паміж найбольш буйнымі суб’ектамі. Мы гэта зрабілі, хоць гэта было нялёгка. Кааліцыя адкрытая і я перакананы, што туды павінна ўваходзіць і «Еўрапеская Беларусь» і іншыя палітычныя сілы.

Мы таксама дамагліся таго, што Еўропа прызнала: падзеі 19 снежня – гэта было злачынства ўлады. Даказаць гэта было таксама няпроста, многія ў Беларусі і на Захадзе казалі, што гэта былі злачынцы, простыя бандыты, якія білі шкло ў Доме ўрада, такія ж пагромшчыкі, як на вуліцах Парыжа ці Лондана. Сённяшняя ацэнка тых падзей адназначная – рэпрэсіі супраць беларускага народа. Мы дамагліся таго, што на сённяшні дзень прызнаныя ўсе пятнаццаць палітычных вязняў – не толькі вядомыя людзі, кандыдаты ў прэзідэнты, але і простыя хлопцы, якія сёння знаходзяцца ў вязніцы – лічацца палітвязнямі: Яўген Васьковіч, многія асуджаныя па так званай «справе анархістаў» – сёння Еўропа патрабуе іх вызвалення.

Нам удалося дамагчыся спынення фінансавай падтрымкі дзейснага рэжыму. Таму што амаральна падтрымліваць дзейсны рэжым, калі ён катуе людзей у вязніцах, калі не толькі палітыкі, але і простыя людзі пакутуюць. Адвакаты не могуць нікога абараніць. Знішчаюцца нават тыя незалежныя абаронцы, якія сёння падтрымліваюць рэпрэсаваных. Таму фінансавай падтрымкі ўладам не будзе, пакуль не будуць вызваленыя палітычныя вязні, пакуль не будзе ў Беларусі свабодных выбараў. Так, мы хацелі, каб была больш цвёрдая пазіцыя з боку дэмакратычных краін свету. Але, на жаль, нашыя еўрапейскія партнёры аказаліся няздольныя на гэта. Мы дзякуем ім за тую маральную пазіцыю, якую яны займаюць зараз, што таксама далося не проста.

Еўрапейскі Саюз санкцыі ўвёў, але Госпад таксама увёў эканамічныя санкцыі супраць рэжыму. Эканамічны крызіс, які ўтварыўся пасля выбараў – гэта тая прычына, якая спыніла шматлікія рэпрэсіі і знішчэнне беларускіх дэмакратычных сіл.

Вось тыя рэчы, якія БХД павінна рабіць у бліжэйшы час.

Мы прапаноўваем беларускай уладзе мірную перадачу ўлады. Па нашай ініцыятыве кааліцыя дэмакратычных сілаў прыняла стратэгію, якая складаецца з трох крокаў і прадугледжвае пераход ад дыктатуры да дэмакратыі без крыві. Першы крок – ніякіх размоў з беларускімі ўладамі, пакуль не будуць вызваленыя і рэабілітаваныя ўсе палітычныя вязні Беларусі. Другі крок – гэта падрыхтоўка і правядзенне свабодных і справядлівых выбараў. Таксама гэты крок прадугледжвае падрыхтоўку фінансавай дапамогі з Захаду, на той выпадак, калі выбары будуць сапраўды свабоднымі і сумленнымі. Таму што сёння Беларусь не здольная выйсці самастойна з палітычнага і эканамічнага крызісу. Гэта мірны сцэнар і гэта апошні шанец для сённяшняй улады. Але ўлада рыхтуе рэвалюцыю, яна прымае законы, якія дазваляюць страляць у невінаватых людзей, улада робіць усё, каб разарваць стасункі з дэмакратычным светам. І тады, безумоўна, улада атрымае бунт, рэвалюцыю, пераварот у рэспубліцы. Мы, хрысціянскія дэмакраты, павінны быць падрыхтаваныя да любога развіцця падзей і са свайго боку ўсё зрабіць для міру. Але мы павінны рыхтаваць сябе да таго, каб быць разам з беларускім народам.

Мы маем добрыя кампаніі і акцыі, якія будзем працягваць і далей. Асноўная, галоўная задача на наступны год – гэта не дапусціць легітымізацыі існуючай улады. Дэмакратычныя сілы пакуль не маюць адзінага плана на наступныя парламенцкія выбары. Улада ўжо мае гэты план – ён просты і відавочны. Гэта план легітымізацыі сённяшняй улады праз правядзенне т. зв. выбараў, праз увядзенне некалькіх кандыдатаў ад апазіцыі, якіх можна будзе «прадаць» Захаду, дэманструючы, што адбыліся свабодныя і дэмакратычныя выбары. Нам важна не дапусціць развіцця гэтага сцэнару. Мы вылучылі патрабаванні, пры якіх мы гатовыя пайсці на выбары. Мы ведаем, што тэарэтычна такі шанец ва ўлады ёсць і мы павінны ёй яго даць. Але калі гэтыя патрабаванні не будуць выкананыя, калі ў краіне застануцца палітычныя вязні, удзел у выбарах гэта будзе здрадай усім ім. Гэта, безумоўна, недапушчальна. Нам трэба паслухаць голас беларускага народа, які зараз пачаў гучаць мацней. Людзі не вераць у гэтыя выбары, не хочуць на іх ісці. Я перакананы, што (народ) непадтрымае тых людзей, якія прымуць удзел (у выбарах), калі Ярмошына зноў будзе праводзіць спектакль пад назваю «Свабодныя выбары ў Рэспубліцы Беларусь».

Самае галоўнае, што нам патрэбна зразумець і зрабіць у бліжэйшы час: мы, беларусы, не проста аддалі ўладу Лукашэнку, пэўнаму кла-

# Георгій Дзмітрук
## Тэкст выступу на IV З’ездзе Партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя



Паважаныя дэлегаты З’езду, паважаныя госці!

2011 год, на мой погляд, у Беларусі прайшоў пад знакам прыстаўкі «гіпер».

Сёння ў кожным горадзе будуюць гіпермаркеты. Дакучлівая рэклама і кошты «па-танней» прымушаюць нас аддаваць свае грошы менавіта ім. Гіпермаркеты, Гіперпрэзідэнт , гіперКДБ і гіперапетыты гіперзаможных – усё гэта звёны аднаго ланцуга, у які сёння патрапіла Беларусь. Гіперпрыбыткі, гіперулада, гіпермагчымасці – гэта ўсё ім, а гіперпапулізм і гіперінфляцыя – беларускаму народу!

Што адбываецца сёння ў Беларусі? Гэтым пытаннем задаюцца ўсё: і бізнэсоуцы, і простыя працоўныя, палітыкі і жыхары вёсак. На мой погляд, адказ хаваецца ў духоўна-маральным становішчы адказных асоб, якія ўплываюць на ход палітычных працэсаў у Беларусі. Больш таго, адказнасць за сітуацыю ў краіне нельга адносіць толькі на рахунак кіраўніка дзяржавы, але і на рахунак тых, хто ў цішы кабінетаў маніпулюе ідэалогіяй, тых, хто, называючы сябе суддзямі і пракурорамі ўчора кінуў у турму нашых калегаў і сяброў  Змітра Шурхая і Алеся Чаркашына. Чаму такія людзі, як правіла з вышэйшай адукацыяй, разумныя, пісьменныя, адказныя,  з такім аптымізмам бароняць інтарэсы дыктатуры?

***Адказ дае Біблія: (Рым.1:21-25)***
***21 Но как они, познав Бога, не прославили Его, как Бога, и не возблагодарили, но осуетились в умствованиях своих, и омрачилось несмысленное их сердце;***
***22 называя себя мудрыми, обезумели***
***23 и славу нетленного Бога изменили в образ, подобный тленному человеку (культ асобы)…***

Вось праўдзівы чыннік неўтаймаванай карупцыі, хабарніцтва і бязмежжа! Вось адкуль бяруцца несумленныя службоўцы, несправядлівыя суддзі, жорсткія міліцыянеры, абыякавыя дэпутаты, не-

ну, які зараз тэрарызуе Беларусь, мы аддалі ўладу духу страху, нянавісці, варожасці. Калі гэты дух будзе жыць у нашых сэрцах, тады мы будзем на адным баку з тымі, хто кіруе. Наша задача - хрысціянскіх дэмакратаў, народнай партыі Беларусі – пераадолець гэты дух у сваіх сэрцах. Потым у межах нашай партыі, а потым у беларускім грамадстве. Мы павінны паказаць гэты прыклад Рэспубліцы Беларусь, беларускаму народу. Мы кажам, што павінны быць народнай партыяй, гэта значыць мы павінны быць разам з беларускім народам. Не проста бараніць інтарэсы асобнай групы, нават такой, як хрысціяне Беларусі. Як сапраўдныя хрысціяне мы павінны ісці ўслед за тым, хто заснаваў Царкву -- за Хрыстом. А Хрыстос аддаў сваё жыццё, як вядома, не за хрысціянаў (бо нават сама назва  «хрысціяне» – узнікла значна пазней), не за праведнікаў, а за простых людзей, ЗА КОЖНАГА чалавека, без выключэння. І наша з вамі задача быць побач з гэтымі простымі людзьмі. Мы стварылі Раду народных дэпутатаў. Кожны з вас павінен паверыць у свае сілы і кожны ў сваім горадзе ўстаць і сказаць  «Я альтэрнатыва існуючай уладзе! Я лідар, які будзе змагацца за праўду, свабоду і справядлівасць!».

У нас наперадзе цяжкія часы. Мяркую, бліжэйшыя два гады беларускія ўлады будуць узмацняць рэпрэсіі, але гэта апошнія гады яе існавання. Я думаю, што, калі мы стрываем, калі беларускія хрысціянскія дэмакраты будуць больш падрыхтаванымі і больш прафесійнымі, калі мы будзем гатовыя рызыкаваць, змагацца за змену ўлады ў гэтай краіне, за людзей, тады перамога будзе абавязкова з намі. Усё, што патрэбна для перамогі ў нас ужо ёсць, усё ўжо зрабіў адзін чалавек – наш Бог – Ісус Хрыстос. Калі мы будзем ісці за ім, калі мы будзем асэнсоўваць сябе, як слугі беларускага народа і паслядоўнікі Ісуса Хрыста, тады мы пераможам. Беларусь будзе хрысціянска-дэмакратычнай краінай!

наедныя банкіры і нястрымныя безнескарупцыянеры.

Не магу ні сказаць некалькі слоў пра пэўных праблемах карупцыі.

Пэўны выпадак.

Загад Прэзідэнта №599 ад 19 лістапада 2011 года вызваліў беларускія казіно ад абавязку плаціць падаткі ў прывязцы да Еўра. Замест 2500- 3000 Еўра за гульнявы стол бізнескарупцыянеры атрымалі «мілата» ад дзяржавы плаціць усяго каля 16 млн беларускіх рублёў. «Падарунак лёсу» – скажаце вы?

Учора, едучы па галоўным праспекце сталіцы прачытаў рэкламу аднаго з менскіх казіно, дзе дзялкі ігральнага бізнэсу заваблівалі наведвальнікаў, прапаноўваючы выйгрыш, у памеры 150 000 умоўных адзінак!!! 150 000, але не беларускіх рублёў!!! Калі нехта выйграе па 150 000 даляраў ці еўра, то колькі ж, на самай справе, зарабляюць у крызіс уласнікі гэтага бруднага бізнесу?

Сёння я жадаю задаць пытанне аўтару Загада №599: за якія паслугі Вы далі такую выдатную палёгку гіперзаможным гаспадарам індустрыі граху і забавак?

І яшчэ пытанне так званым народным выбраннікам: «Ці не знаходзіце вы ў Загадзе №599 прыкмет карупцыі, пра якую вы так шмат казалі падчас сваіх выбарчых кампаній? Або вас гэта наогул не цікавіць? Або можа вы і самі з'яўляецеся vip-кліентамі падобных устаноў, і гэтым тлумачыцца адсутнасць цікавасці да падобнага лабіявання?"

Беларускае грамадства падзеленае на бедных і суперзаможных. На людзей партыі ўлады і простых людзей. Бедныя становяцца яшчэ бядней, а заможныя – яшчэ заможней. Справа не толькі ў матэрыяльных выгодах. Мы перастаем разумець гэтых людзей. Мы перастаем разумець жорсткага міліцыянта, несумленнага суддзю, прадажнага артыста эстрады, карумпаванага працаўніка выканкама. Паміж людзьмі расце непаразуменне.

Сёння я хачу сказаць: ёсць выхад. І гэты выхад прапаноўвае нам Біблія. Ісціна ўтоеная ў трох вялікіх хрысціянскіх лозунгах. Тры біблейскія законы выратуюць Беларусь! Тры крокі, як тры прыступкі, тры адкрыцці. І гэта, вядома, з вялікай літары: Пакаянне, Прабачэнне і Прымірэнне.

1. Пакаянне. Нам ёсць у чым каяцца. Самае галоўнае – у няверы і бязбожнасці. У грахах камунізму, сталінізму, лукашызму і іншых ...ізмаў. У шматлікіх з нас бацькі або прабацькі пралівалі нявінную кроў на баку чырвоных або белых, партызан або паліцаяў, служылі або нават служаць зараз, розным рэжымам, «стукалі» ўладзе. Брат ішоў на брата. Рабавалі цэрквы. Рэпрэсавалі святароў. Здавалі габрэяў. Беларус забіваў беларуса.

Мы павінны каяцца ў абыякавасці. Ад імя дзяржавы, а значыць ад твайго і майго імя, улада дагэтуль здзяйсняе забойствы ўласных грамадзян, пад выглядам смяротнай кары.

Вось што гаворыць Святое Пісьмо пра такую ўладу:

***26 Ибо между народом Моим находятся нечестивые: сторожат, как птицеловы, припадают к земле, ставят ловушки и уловляют людей.***
***27 Как клетка, наполненная птицами, домы их полны обмана; чрез это они и возвысились и разбогатели,***
***28 сделались тучны, жирны, переступили даже всякую меру во зле, не разбирают судебных дел, дел сирот; благоденствуют, и справедливому делу нищих не дают суда.***
***29 Неужели Я не накажу за это? говорит Господь; и не отмстит ли душа Моя такому народу, как этот?***
***(Iер.5:26-29)***

Як бачыце, помста за агульнадзяржаўную абыякавасць да жыцця простага грамадзяніна спадае віною на ўвесь беларускі народ.

Мы павінны каяцца за маўклівую абыякавасць мільёнаў беларусаў падчас выбараў. Масавыя фальсіфікацыі і брутальны разгон акцыі пратэсту быў магчымы толькі з пэўным непасрэдным удзелам дзясяткаў тысяч так званых настаўнікаў, лекараў, артыстаў эстрады, працаўнікоў пошты, супрацоўнікоў МУС, дырэктараў прадпрыемстваў і сілавікоў.

Шматлікія з нас проста згаджаліся і моўчкі, галасавалі «за».

Агульнанацыянальнае пакаянне, нават калі гэта будзе вельмі балюча, здыме з нас віну перад ахвярамі і Госпадам, які помсціць за кроў нявінную.

2. Пакаянне. Сёння штодня крызіс ставіць на калены нашу краіну. Вядома ж, у эканамічным кантэксце. Нажаль, мы падымемся з нашых эканамічных каленаў, якімі з'яўляюцца наша бедната, наш страх, наша абыякавасць, толькі калі схілім калены ў духоўным сэнсе перад Усемагутным Богам.

3. Прымірэнне. Пакаянне непазбежна прывядзе нас да ўзаемнага прабачэння і прымірэння. Гэта працэс. Трэба набрацца мужнасці і прабачыць і сабе і блізкаму. Больш таго, трэба прабачыць ворагаў. Можа гэта зойме ў нас цэлае дзясяцігоддзе, але гэты шлях злучыць нас як народ, як нацыю.

Сёння ў краіне дзве духоўныя сілы ваюють за розумы і сэрцы грамадзян. З аднаго боку пад чырвоным, крывавым сцягам, пад лозунгам «Фальсіфікацыя. Карупцыя. Гіперінфляцыя» нам прапаноўваюць вяртанне ў бязбожнае, савецкае мінулае. З іншага боку, пад сцягам Хрыста, пад лозунгам «Пакаянне. Прабачэнне. Прымірэнне» партыя БХД прапаноўвае беларускаму народу рухацца ў лепшую будучыню, у бок пабудовы справядлівага грамадства.

***«И смирится народ Мой, который именуется именем Моим, и будут молиться, и взыщут лица Моего, и обратятся от худых путей своих, то Я услышу с неба и прощу грехи их и исцелю землю их» 2-я Паралипоменон 7:14 .***

У самым канцы я скажу тое, што я ўжо казаў на першым і другім Устаноўчым з'ездзе БХД.

Ісус перад сваім сыходам з нашай зямлі сказаў самыя важныя словы.

Мацея 28:19 «Дык вось, ідзіце, навучыце ўсе народы ...». Гэта значыць, што Божы план выратавання ёсць і для кожнага чалавека, і што вельмі важна, для кожнага народа. І для Рэспублікі Беларусь таксама. Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя зможа прапанаваць беларускаму народу план развіцця, план выхаду з крызісу, план выратавання. І я ўпэўнены – Беларускі народ прыме, зразумее і падтрымае нас.

# Тэкст рашэнняў IV З'езда Партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя: СТРАТЭГІЧНАЕ БАЧАННЕ БХД

## 1) КАШТОЎНАСЦІ І ПРЫНЦЫПЫ ПАРТЫІ БХД

Хрысціянскія каштоўнасці — аснова палітычнага парадку

Свой шлях мы выбіраем самі, на слушнасць яго правяраем згодна з хрысціянскімі каштоўнасцям, якія даўно ўжо сталі агульначалавечымі каштоўнасцямі. Яны даюць уяўленне пра прынцыпы справядлівага праўлення, заснаванага на перавазе духоўнасці над матэрыяльнымі каштоўнасцямі.

### СВАБОДНАЯ АСОБА — АСНОВА БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСТВА

Усялякае чалавечае разуменне недасканалае, таму ніхто не можа навязваць свае погляды іншаму. Правы і свабоды кожнага чалавека на ўладкаванне свайго ўласнага жыцця абмяжоўваюць нашы магчымасці па пабудове Беларусі. Гэтае адзінае абмежаванне мы лічым сапраўдным і справядлівым. Тое, што гэтае абмежаванне адзінае, але непарушнае, мы лічым дабром. Грамадства і дзяржава служаць чалавеку і існуюць дзеля стварэння ўмоў, неабходных для яго самарэалізацыі. Грамадства і чалавек павінны знаходзіцца ў стане балансу і ўзаемнага дапаўнення.

### НЕ НАРОД, А НАЦЫЯ

Беларусы павінны перайсці на наступную прыступку будаўніцтва сваёй нацыянальнай дзяржавы ад народа, які аб'ядноўвае толькі агульнасць тэрыторыі, да нацыі свабодных грамадзян, якія нясуць адказнасць за сваю краіну і яе будучыню. А неад'емнай складовай часткай нацыі ёсць нацыянальныя меншасці, што пражываюць на тэрыторыі краіны. Іх права на захаванне самабытнай культуры, адукацыю, свабоду аб'яднанняў мусіць быць непарушным. Мы нарадзіліся ў Беларусі, гэта наша краіна, і ніхто акрамя нас не ўладкуе яе так, як нам трэба. Беларусь – гэта наша свабода, свабода жыць і дзейнічаць у адпаведнасці з нашым разуменнем праўды, дабра, прыгажосці і справядлівасці. Дзяржава не мае права накладаць абмежаванні на справядлівыя патрабаванні асобы, аднак яна павінна абараняць адных чальцоў грамадства ад шкоды, звязанай з прыватнымі інтарэсамі іншых. Яна можа выкарыстоўваць сваю ўладу толькі ў той меры, у якой гэта неабходна для агульнага дабра. Дзяржава не мае права вырашаць задачы, адказнасць за якія ляжыць на сям'і, царкве і іншых грамадскіх структурах.

### АГУЛЬНАЕ ДАБРО І САЦЫЯЛЬНАЯ СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

Народная партыя БХД выступае за стварэнне ў Беларусі сацыяльна-арыентаванай дзяржавы, дзе галоўным прыярытэтам дзяржаўнай палітыкі з'яўляецца годнае жыццё кожнага грамадзяніна, дзе асаблівая ўвага надаецца развіццю грамадскай салідарнасці, падтрымцы маламаёмных і людзей, якія апынуліся ў цяжкай жыццёвай сітуацыі. Усе людзі ад прыроды роўныя і таму маюць роўнае права на павагу і на ўдзел у жыцці грамадства.

### САЛІДАРНАСЦЬ

У грамадстве заўсёды будуць існаваць канфлікты інтарэсаў сярод розных груп грамадзян, таму пабудова ідэальнага грамадства на зямлі немагчымая. Партыя БХД бачыць місію кожнага грамадзяніна не ў канкурэнцыі з іншымі людзьмі, а ў самарэалізацыі грамадзяніна як чальца грамадства перш за ўсё за кошт натуральных і элементарных ячэек грамадства, такіх як сям'я, царкоўная супольнасць, мясцовае і прафесійнае згуртаванне, валанцёрская арганізацыя.

### СУБСІДЫЯРНАСЦЬ

Партыя БХД выступае за максімальную дэцэнтралізацыю усіх структур беларускага грамадства, у тым ліку урадаў, партый, недзяржаўных арганізацый, дзяржаўных і прыватных карпарацый, прафсаюзаў. Улада павінна быць як мага бліжэй да грамадзян: да адказнасці структур верхняга ўзроўню павінны адносіцца толькі тыя пытанні, якія немагчыма вырашыць на больш нізкім узроўні. Грамадства і дзяржава павінны браць на сябе вырашэнне толькі тых пытанняў, з якімі асобны чалавек справіцца не ў стане.

### САЦЫЯЛЬНА-АРЫЕНТАВАНАЯ РЫНКАВАЯ ЭКАНОМІКА

Народная партыя БХД выступае за прыватную ўласнасць, у тым ліку і на зямлю. Паўнавартаснае развіццё асобы немагчыма без свабоды выбару працоўнага месца і свабоды прадпрымальніцкай дзейнасці, аднак ні дзяржава, ні прыватны бізнэс не маюць права мець поўны кантроль над эканомікай і павінны служыць людзям. Дэмакратычнае патрабаванне падсправаздачнасці распаўсюджваецца на прыватных асоб, якія сканцэнтравалі ў сваіх руках уладу і багацце. Толькі рашэнні саміх спажыўцоў, пастаўшчыкоў рэсурсаў і прыватных фірмаў вызначаюць структуру размеркавання рэсурсаў. Пры гэтым эканамічна больш моцныя абавязаны падтрымліваць больш слабых. У абавязкі дзяржавы ўваходзіць развіццё пачуцця ўзаемнай адказнасці ўсіх удзельнікаў на рынку (у тым ліку, перад будучым пакаленнем) і карэкціроўка несправядлівых тэндэнцый у гандлі, канкурэнцыі і размеркаванні даходаў.

### БЕЛАРУСЬ – ЕЎРАПЕЙСКАЯ НАЦЫЯ

Беларусь - неад'емная частка агульнаеўрапейскай геаграфічнай,

палітычнай і культурнай прасторы. Інтэграцыя Беларусі ў еўрапейскую супольнасць бачыцца намі як адна са стратэгічных задач нацыянальнай палітыкі.

## 2) МІСІЯ ПАРТЫІ БХД

Місія Партыі БХД палягае ў садзейнічанні маральнаму, духоўнаму, нацыянальнаму, палітычнаму і эканамічнаму адраджэнню беларускай нацыі, выхаванню духоўна багатай, свабоднай і развітай асобы. Народная партыя БХД прапануе беларускаму грамадству рэалізаваць мадэль палітычнай сістэмы дзяржавы і грамадства ў адпаведнасці з хрысціянскімі і агульначалавечымі каштоўнасцямі, і дае прыклад палітычнай культуры, заснаванай на дэмакратычных каштоўнасцях. Хрысціянскія дэмакраты выступаюць за фарміраванне ў Беларусі эканамічнай сістэмы, арганізаванай на аснове рынкавай самарэгуляцыі, каардынацыя дзеянняў якой ажыццяўляецца на аснове ўзаемадзеяння на рынках свабодных прыватных вытворцаў і свабодных індывідуальных спажыўцоў. Хрысціянскія дэмакраты выступаюць за фарміраванне ў Беларусі эканамічнай сістэмы, арганізаванай на аснове прынцыпаў сацыяльнай рынкавай эканомікі.

Хрысціянская дэмакратыя прадугледжвае напаўненне дэмакратычным і духоўным зместам ўсіх сфер грамадскага і асабістага жыцця. Хрысціянская дэмакратыя немагчымая без палітычнай дэмакратыі, гэта значыць існавання прававой дзяржавы, дзе выконваюцца правы і свабоды, абвешчаныя ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, а таксама эканамічнай дэмакратыі, якая прадугледжвае дэмакратызацыю ўсяго гаспадарчага механізму, стварэнне дзяржавы ўсеагульнага дабрабыту праз сацыяльна-арыентаваную рынкавую эканоміку, фарміраванне сацыяльнага партнёрства.

Партыя БХД выступае за пабудову незалежнай, дэмакратычнай і прававой дзяржавы Рэспубліка Беларусь з выкарыстаннем негвалтоўных метадаў палітычнага ўдзелу, і імкнецца да стварэння гуманнага свабоднага грамадства, заснаванага на трывалым падмурку хрысціянска-дэмакратычных каштоўнасцяў.

**Стратэгічным прыярытэтам** БХД з’яўляецца дэмакратызацыя палітычнай сістэмы Беларусі, прыход да ўлады хрысціянскіх дэмакратаў, фарміраванне хрысціянска-дэмакратычнага альбо кааліцыйнага ўраду і правядзенне дэмакратычных рэформаў на грунце хрысціянска-дэмакратычнай платформы, інтэграцыя Беларусі ў еўрапейскую супольнасць.

**Асноўным прыярытэтам** Партыі БХД на 2011-2012 год з’яўляецца ўзмацненне Партыі, як у колькасным, так і ў якасным вымярэнні, а таксама выпрацоўка адзінай пазіцыі і плана дзеянняў дэмакратычных сілаў Беларусі.

## 3) МЭТЫ ПАРТЫІ БХД:

*Партыя БХД лічыць, што для дасягнення нашых стратэгічных прыярытэтаў мы павінны дасягнуць наступных мэтаў:*

1. Павялічыць колькасць сябраў партыі да 5 тыс. чалавек і прыхільнікаў да 10 тыс. на працягу двух гадоў. Павялічыць падтрымку Партыі БХД у беларускім грамадстве і / ці яе нацыянальных / рэгіянальных лідараў на ўзроўні не менш за 5% ды канца 2012 года, 7% да канца 2013 года.
2. Скарэктаваць імідж партыі як масавай партыі правацэнтрысцкай арыентацыі сярод насельніцтва шляхам стварэння альтэрнатыўнай праграмы рэфармавання на прынцыпах сацыяльна-арыентаванай рынкавай эканомікі, а таксама правядзення кампаній, накіраваных на вырашэнне сацыяльна-эканамічных і палітычных праблем грамадства.
3. Завершыць інстытуцыянальнае афармленне партыі праз атрыманне афіцыйнай рэгістрацыі партыі.
4. Удасканаліць арганізацыйную структуру партыі праз падрыхтоўку прафесійных мэнэджэраў у рэгіянальных арганізацыях.
5. Узмацніць партыйны ўплыў на грамадскую думку з дапамогай актыўнай прысутнасці ў сацыяльных сетках і Інтэрнэце, выдання штомесячнага партыйнага бюлетэня і інфармацыйнага выдання для непартыйны аўдыторыі, актыўнай прысутнасці ў інфармацыйным полі незалежных сродкаў масавай інфармацыі.
6. Распрацаваць і ажыццявіць план па прыцягненні сродкаў як з унутраных, так і знешніх крыніц для забеспячэння бесперабойнага фінансавання партыйнай дзейнасці і рэалізацыі пастаўленых у гэтай стратэгіі задач.
7. Палепшыць разуменне сябрамі партыі таго, што такое Хрысціянская Дэмакратыя і партыйная ідэалогія праз правядзенне навучальных семінараў для новых сябраў партыі ў межах партыйнай школы.
8. Як народная партыя БХД пакліканая яднаць усе сілы, якія стаяць на грунце каштоўнасцяў народнасці, персаналізму і субсідыярнасці на ўсіх узроўнях. У перспектыве БХД бачыцца нам як сэрца вялікай беларускай народнай сілы, хрысціянска-дэмакратычнай і кансэрватыўнай паводле характару. Цягам бліжэйшага часу неабходна ўзмацніць падтрымку дэмакратычных пераменаў у беларускім грамадстве праз стварэнне шырокай кааліцыі дэмакратычных сіл і забеспячэнне яе эфектыўнага функцыянавання, каардынацыю сумеснай дзейнасці суб’ектаў кааліцыі і правядзенне сумесных агульнанацыянальных палітычных кампаній, а таксама актыўную міжнародную дзейнасць партыі.
9. Актывізаваць працу з еўрапейскімі партнёрамі Партыі БХД для выпрацоўкі канкрэтнай пазіцыі і прапаноў з боку еўрапейскіх краін беларускаму грамадству, што будзе спрыяць росту колькасці прыхільнікаў інтэграцыі ў еўрапейскую супольнасць і іх кансалідацыі.
10. Да наступнага З’езду стварыць структуры БХД у кожным раёне Беларусі. Пашырыць праект «Рада Народных дэпутатаў» на ўсе суполкі БХД.

*17.12.2011, Менск*

# СТРАТЭГІЧНЫЯ ЗАДАЧЫ ПАРТЫІ БХД НА 2012–2013

**1) Народная Партыя і Хрысціянскае паглыбленне**

Вырашэнне дзвюх стратэгічных задач БХД – пашырэнне да маштабаў сапраўды народнай масавай партыі і паглыбленне хрысціянскага духу БХД – справа няпростая: звычайна іх схільныя супрацьпастаўляць. Але паспяховыя прыклады хрысціянскіх дэмакратаў Еўропы паказваюць, што аптымальная мадэль – глыбокае сумяшчэнне абодвух гэтых накірункаў. Як Божае і чалавечае (ва ўсім, акрамя грэху) поўнасцю сумясцілася ў Госпадзе нашым Ісусе Хрысце – так і мы, і як асобы, і як сіла, павінныя імкнуцца да выяўлення Хрыстовага вобразу мыслення і дзеяння, у актыўным пашырэнні БХД ў гушчыні беларускага народу.

Лідары БХД мусяць успрымаць канструктыўную крытыку, чуць альтэрнатыўную думку, прапаноўваць шлях рэальнага ўмацавання хрысціянскага характару БХД (кампанія ў абарону сям»і, рэкамендацыі для кіраўнікоў усіх узроўняў, навучанне і г.д.).

Ва ўмовах сацыяльна-эканамічнага крызісу расквітнеў алкагалізм, рэзка узрасла колькасць абортаў і разводаў. БХД павінна з дапамогай цэркваў зноў шырока разгарнуць нацыянальную кампанію ў абарону маральных каштоўнасцяў «Моцная сям'я – моцная Беларусь».

У назве Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя, у цэнтры, у сэрцы – імя Хрыста, і гэта надае нам з вамі невымернай адказнасці.

«Народная партыя з хрысьціянскім сэрцам» – ёсць дэвіз Партыі БХД.

**2) Яднанне народных сілаў**

Як народная партыя, БХД пакліканая яднаць усе сілы, якія стаяць на гунце каштоўнасцяў народнасці, персаналізму і субсідыярнасці на ўсіх узроўнях. У перспектыве БХД бачыцца нам як сэрца вялікай беларускай народнай сілы, хрысціянска-дэмакратычнай і кансэрватыўнай паводле характару. А зараз, ва ўмовах усебаковага крызісу і закасцянення рэжыму, мы пакліканыя найперш наладжваць гарызантальныя сувязі ў пакуль сырой тоўшчы беларускага грамадства.

Народнае абурэнне само па сабе ні ўва што не выліваецца, проста пацыху гніе ўнутры. Сістэма вышчамляе здольных да дзеяння паасобку — вылічвае, атачае і разам націскае на ўсе рычагі, каб чалавек адчаяўся. Беларусы такія засяроджаныя і такія незадаволеныя, што не заўважаюць нават уласнай большасці.

Ператрус у кватэры сеткавага рэвалюцыянера — усе вернікі, прадпрымальнікі, рабочыя і, вядома, праваабаронцы збіраюцца там. Незалежным журналістам далі суткі — сто чалавек нясуць перадачы, шлюць тэлеграмы, дапамагаюць сям'і. Падтрымка пераўтвараецца ў акцыю ў любым месцы і ў любы час, у кожным выпадку — каб пераслед за «масавае бяздзеянне» страціў сэнс. Салідарнасць як адказ на рэпрэсіі хутка нараджае салідарнасць як ініцыятыву, рух, які немагчыма пракантраляваць, рух, залежны ўжо не ад дробнапалітычнай сумятні, а (ні больш, ні менш) ад волі народа.

Найважнейшай справай сённяшняга дня застаецца вызваленне палітвязняў. БХД мусіць аддаць усе сілы дзеля арганізацыі моцнай кампаніі салідарнасці, найперш з сябрамі партыі Яўгенам Васьковічам, Змітром Дашкевічам, Эдуардам Лобавым. Адзін за ўсіх – і ўсе за аднаго! Толькі калі кожны хрысціянскі дэмакрат будзе падтрымліваць таго, хто пад ударам, БХД зможа стаць рухавіком агульнабеларускай салідарнасці. Галоўнае – дапамога з адвакатам, збор сродкаў для сем'яў, малітва, лісты і акцыі, арганізацыя візіту святароў да вязняў, збор подпісаў-паручальніцтваў, праваабарончыя форумы.

Адзін за ўсіх — паводле такога правіла 2000 гадоў таму перамог Ісус. Нам засталося толькі падхапіць: і ўсе за аднаго!

**3) БХД – у кожным раёне!**

Пасля шырокіх кампаніяў 2010 г. БХД падтрымалі сотні людзей нават у тых раёнах, дзе мы не мелі суполак. Гэта ўнікальны рэсурс – і цяпер перад намі цалкам выканальная задача да наступнага З'езду стварыць структуры БХД у **кожным раёне** Беларусі. Пакуль у нас ахоплена 87 раёнаў са 118 (каля 70%), найбольш паспяхова на Гарадзеншчыне і Віцебшчыне. Гэта справа найперш рэгіянальных каардынатараў і мясцовых лідараў БХД.

Адна з ключавых справаў БХД у 2012-2013 годзе – наша паспяховая праграма «Народны дэпутат». Трэба пашырыць праект «Народнага дэпутатства» на ўсе суполкі БХД: хрысціянскія дэмакраты мусяць найперш думаць пра інтарэсы сваіх выбаршчыкаў. «Калі хто хоча быць сярод вас першым – хай будзе ўсім слугою».

**4) «Выбары»**

Мы, беларускія хрысціянскія дэмакраты, заяўляем, што:

1. Выбары ў Беларусі не могуць лічыцца дэмакратычнымі, калі яны праходзяць у краіне, дзе існуюць палітычныя зняволеныя.
2. Выбары ў Беларусі не могуць лічыцца празрыстымі ва ўмовах абмежавання правоў палітычных партый і структур грамадзянскай супольнасці, свабоды прэсы, мітынгаў і сходаў.
3. Выбары ў Беларусі не могуць лічыцца законнымі, калі іх вынікі атрыманыя пры дапамозе фальсіфікацый, ва ўмовах няроўнасці палітычных сіл пры фарміраванні выбарчых камісій, абмежаванні рэальных магчымасцяў забеспячэння кантролю і вядзення назірання за ходам галасавання і падлікам галасоў, а таксама адсутнасці магчымасці правядзення незалежных сацыялагічных даследаванняў і інструментаў рэальнай абароны інтарэсаў выбаршчыкаў і кандыдатаў у судзе.

Мы заяўляем, што сення беларускі народ пазбаўлены права праз свабодныя, дэмакратычныя і справядлівыя выбары самастойна кіраваць сваёй

краінай і фарміраваць ўсе ўзроўні ўлады ў краіне.

Для рэалізацыі гэтага права мы патрабуем:

1. Неадкладна вызваліць усіх палітычных вязняў. Спыніць пераслед іншадумцаў па месцы вучобы і працы, забяспечыць вяртанне зволеных і выключаных (у выпадку іх жадання) на ранейшыя месцы працы і вучобы.
2. Зарэгістраваць усе грамадскія аб'яднанні і палітычныя партыі, якім з надуманых прычынаў адмаўлялася ў рэгістрацыі. Унесці ў заканадаўства неабходныя і прызнаныя міжнароднымі арганізацыямі змены, якія спрашчаюць працэдуру рэгістрацыі структур грамадзянскай супольнасці. Адмяніць артыкулы 193-1 і 369-1 Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь.
3. Стварыць роўныя ўмовы дзейнасці дзяржаўных і недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Спрасціць сістэму іх рэгістрацыі. Адмяніць незаконныя абмежаванні на іх выданне і распаўсюджванне.
4. Унесці ў Выбарчы кодэкс змены наступнага зместу:

   a) Замацаваць абавязковае права палітычным партыям дэлегаваць сваіх прадстаўнікоў у выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў, калі палітычная партыя прыняла рашэнне аб удзеле ў выбарах;

   b) Замацаваць права назіральнікаў аглядаць падлік галасоў такім чынам, каб бачыць волевыяўленне грамадзян у кожным бюлетэні, атрымліваць любую інфармацыю, якая тычыцца выбараў, а таксама фіксаваць працэс падліку галасоў наяўнымі ў іх распараджэнні сродкамі; прадаставіць назіральнікам права апячатваць выбарчыя скрыні подпісамі нароўні з чальцамі выбарчых камісій;

   c) Вызначыць падставы, якія даюць выключнае права на датэрміновае галасаванне і галасаванне па месцы жыхарства (дакументальна пацверджаная камандзіроўка, адпачынак, ад'езд на лячэнне, пацверджанне медыцынскай даведкай стану здароўя, якое перашкаджае выбаршчыку асабіста наведаць ўчастак у дзень выбараў);

   d) Замацаваць на практыцы асобны празрысты падлік па кожным з відаў галасавання і кожнай з выкарыстаных падчас галасавання скрыняў, а таксама адлюстраванне вынікаў раздзельнага падліку галасоў у выніковым пратаколе;

   e) Замацаваць права судовага абскарджання любых рашэнняў выбарчых камісій усіх узроўняў.

З'езд партыі БХД даручае Нацыянальнай Радзе БХД:

1. Падрыхтаваць і правесці кампанію актыўнага байкоту «выбараў», альбо ў выпадку выканання вышэйпералічаных патрабаванняў, ўдзелу хрысціянскіх дэмакратаў у палітычнай кампаніі;
2. Правесці перамовы з іншымі дэмакратычнымі сіламі Беларусі і арганізаваць супольныя палітычныя кампаніі дзеля выканання гэтых патрабаванняў.

### 5) Абнаўленне партыйнай праграмы

Праграма БХД пасля 5 гадоў сталення Партыі і перад новымі выклікамі для хрысціянскай дэмакратыі на Беларусі мае патрэбу ў абнаўленні. На працягу 1 года нам патрэбна падрыхтаваць, а на наступным З'ездзе прыняць абноўленную праграму Партыі. Для рэалізацыі гэтага неабходна:

1. Стварыць працоўную групу па перапрацоўцы і абнаўленні партыйнай праграмы

2. Склікаць партыйную Канферэнцыю, на якой будуць прадстаўленыя і абмеркаваныя абноўлены варыянт партыйнай праграмы. У якасці скрайняй даты правядзення партыйнай Канферэнцыі вызначыць снежань 2012 г.

3. У абнаўленні і перапрацоўцы праграмы БХД узяць арыенцір на пашырэнне «народнага» ідэйнага складніка з умацаваннем хрысціянска-дэмакратычнага стрыжня праграмы для пашырэння падтрымкі партыі сярод шырокіх колаў беларускага грамадства.

4. Узяць за аснову дзейсную Праграму і раздзел «Дзяржаўна-палітычны лад», прыняты на III З'ездзе БХД 12 верасня 2010 г.

### 6) 100 год БХД

Праз 5 гадоў, у 2017, спаўняецца 100 гадоў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Сустрэць гэтыя ўгодкі нам трэба годна: з кнігай пра «Стагоддзе БХД», шырокім ушанаваннем памяці бацькоў-заснавальнікаў Партыі (Адама Станкевіча, Вінцэнта Гадлеўскага, Яна Пазняка, Станіслава Глякоўскага, Канстанціна Стаповіча, Язэпа Германовіча, Фабіяна Абрантовіча, і іншых), навуковымі канферэнцыямі і конкурсамі. Падрыхтоўку трэба распачынаць ужо зараз. Але, безумоўна, найлепшым адзначэннем юбілея для БХД будзе – прыйсці да ўлады ў Беларусі і пачацьператварэнне дзяржавы на аснове праграмы БХД.

Сэрца Народнай Партыі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі – гэта хрысціянскія, маральныя каштоўнасці. Мы перакананыя: Беларусь будзе сапраўды вольнай, моцнай і заможнай толькі на грунце хрысціянскіх прынцыпаў і беларускага патрыятызму. Выбіраючы тактыку і стратэгію, мы павінны памятаць: праўда, свабода і справядлівасць у рэшце рэшт перамагаюць.

**Жыве Беларусь –**
**Жыве з Богам!**

*17.12.2011, Менск*

Незалежнае інфармацыйнае выданьне
Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»
Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.
Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ
Аб'ём: 12 палосаў A4. Падпісана ў друк 20 студзеня 2012г.
Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.
Распаўсюд бясплатны.